# Тыднёвік Магілёўскі

№ 2 (143) 11 – 17 студзеня 2002 г. Кошт 100 руб.


## Бясконцае вясковае рэфармаваньне





Фота IREX

***У вобласьці абвешчанае шырокае рэфармаваньне калектыўнай сельскай гаспадаркі.***

***Паводле адмысловай праграмы аблвыканкаму, рэфармаваньню падлягаюць 84 калгасы, альбо практычна кожная чацьвертая гаспадарка. Згодна папярэдняга эканамічнага аналізу, адносна ўстойлівымі прызнаныя толькі 20 калгасаў. 264 калгасы, на думку спэцыялістаў, прыбытку забясьпечыць ня могуць. А 79 гаспадарак – пятая частка (!) – знаходзяцца ў поўным заняпадзе. Зь іх й вырашана пачаць.***

***Першыя 30 гаспадарак створаць у сваіх межах самастойныя ў гаспадарчым сэньсе вытворчыя падразьдзяленьні й каапэратывы. Амаль столькі ж гаспадарак пройдуць прымусовую санацыю, якая прадугледжвае скарачэньне выдаткаў на вытворчасьць, а менавіта – сьпісаньне пасяўных плошчаў, скарачэньне працоўных калектываў, увядзеньне рэжыму жорсткай эканоміі.***

***На жаль, гаворкі пра досьвед удалага вясковага гаспадараньня Старавойтаўскага "Рассвета" у вобласьці не вядзецца, паколькі няма дзяржаўнага прызнаньня правільнасьці і пасьпяховасьці сельскага акцыянаваньня па-рассветаўску. Наадварот: мясцовае і абласное начальства робяць выгляд, быццам менавіта вяртаньне "Рассвета" у калгасную традыцыю ўратавала знакамітую гаспадарку! Аднак шмат якім былым падначаленым Васіля Старавойтава сорамна цяпер за сваю здраду й горка ад вяртаньня да калгаснай рэчаіснасьці, дзе няма ні вольнай працы, ні прыстойных заробкаў...***

***Паводле вышэйзгаданай праграмы, 7 калгасаў будуць зьяднаныя з прамысловымі прадпрыемствамі. Такое рабілася й раней, і сканчалася заўжды пагаршэньнем жыцьця як сялянаў, так і прамыслоўцаў.***

***Ганна ЮРЧАНКОВА***

ВЫБАРЧЫ РОЗГАЛАС

## На тое і дэкрэт!

***Непрыемнасьці для кіраўніка магілёўскага аддзяленьня грамадзкага аб'яднаньня імя Льва Сапегі, старшыні мясцовай суполкі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ўладзімера Шанцава пачаліся задоўга да дня прэзыдэнцкіх выбараў.***

Актыўнага апанэнта існуючага рэжыму, які дзейна працаваў на баку адзінага кандыдата ад апазыцыі, адпаведныя службы не адпускалі ні на крок. За ім сачылі, яго праслухоўвалі, у ягонай машыне пракалвалі колы. Яго затрымлівала міліцыя...

Урэшце ўлада ўспомніла аб выратавальным Дэкрэце №8, які нібыта рэгулюе, а насамрэч абмяжоўвае атрыманьне грамадзкімі арганізацыямі і прыватнымі асобамі заходняй гуманітарнай дапамогі, а таксама карыстаньне ёю. Менавіта на падставе гэтага дэкрэту кантрольныя органы з дапамогаю міліцыі канфіскоўвалі кампутарнае абсталяваньне, сродкі камунікацыі, друкаваныя матэрыялы. Не пазьбегла канфіскацыі й мясцовая філія Фонду Л.Сапегі, у офіс якой 6-га верасьня завіталі супрацоўнікі дэпартамэнту фінансовых расьсьледаваньняў пры камітэце дзяржаўнага кантролю і інспэктары падатковай службы.

Яны сканцэнтравана і шпарка вынесьлі з памяшканьня 20 адзінак кампутаровага абсталяваньня. Пры гэтым акт канфіскацыі ад імя нібыта панятых падпісалі самі інспэктары з кантралёрамі (што ім, як зацікаўленым у справе асобам, закон катэгарычна забараняе!). Мала таго, У.Шанцаву было абвешчана, што супраць яго заведзеная крымінальная справа. Пазьней, праўда, пракуратура гэтую ініцыятыву правяраючых не падтрымала. Аднак адміністратыўная справа была заведзеная й даведзеная да суда.

Днямі судзьдзя Цэнтральнага (магілёўскага) суда Ірына Сарока прызнала Ў.Шанцава вінаватым – на падставе ўсё таго ж дэкрэту №8. Просьбу сп.Шанцава адкласьці справу з-за апраўданай адсутнасьці адваката, а таксама для больш уважлівага знаёмства зь яе матэрыяламі судзьдзя адхіліла. Прычына – падыходзіў да сканчэньня 10-дзённы тэрмін, што адведзены законам для разгляду адміністратыўных справаў. Уладзімер Шанцаў дамогся толькі таго, што судзьдзя дазволіла ўдзельнічаць у слуханьні ягонаму прадстаўніку, дырэктару Магілёўскага праваабарончага цэнтра Сяргею Абадоўскаму.

Разгляд справы доўжыўся ажно па-за межамі працоўнага дня й скончыўся толькі а 9-й гадзіне вечара. Ірына Сарока аштрафавала сп.Шанцава на 100 мінімальных заробкаў, а аддзяленьне фонду Льва Сапегі – на 1 млн. рублёў. Адразу пасьля абвяшчэньня выроку Ўладзімер Шанцаў заявіў, што такі несправядлівы вэрдыкт сьведчыць пра змову суда і кантралюючых інстанцыяў. Суд, у прыватнасьці, ня ўзяў пад увагу той факт, што ў кампутарнай памяці канфіскаванага абсталяваньня знаходзілася не "палітычная" інфармацыя, а інтэлектуальная ўласнасьць брата Ўладзімера – доктара Аляксандра Шанцава. Тое была кандыдацкая дысэртацыя й адпаведныя дапаможныя матэрыялы. Суд, аднак, не прыняў рашэньня аб тым, каб гэтая ўласнасьць была вернутая законнаму ўладальніку.

Зразумела, што абодва Шанцавы будуць абскарджваць вырок суда і працягваць сваё змаганьне за справядлівасьць.

***Алесь ДАЙНЕКА***



## Пакуль жыве вольнае слова

18-га студзеня 2002-га году ў Менску ў Рэспубліканскім палацы культуры вэтэранаў (вул.Я. Купалы) адбудзецца Другі беларускі фэстываль незалежнай прэсы. У межах фэстывалю пройдзе прэзэнтацыя й выстава выданьняў, адбудзецца таксама дыскусія па актуальных праблемах свабоды слова ў нашай краіне. У фэстывалі запрошаны прыняць дзейны ўдзел наш з вамі "Тыднёвік".

ШТО НА ТЫДНІ... У ГОРКАХ

***Актывісткі жаночай грамадзкай ініцыятывы "Любава" у падарунак маленькім жыхарам горада адкрылі дзіцячую кавярню.***

Яна разьмесьцілася ў цэнтры нядаўна адрэстаўраванага Дзіцячага парку. Гэтая кавярня – адзіная кропка такога кшталту ў раёне. Як толькі дзеці і дарослыя прызвычаюцца яе наведваць, там мяркуецца распачаць культурна-забаўляльныя тэматычныя праграмы. Тады ж можна будзе замовіць правядзеньне дзён народзінаў, сяброўскіх сьвятаў і г.д. А кошт вечара, праведзенага ў кавярні, не дасягае на сёньня й 1 тыс. руб. на аднаго наведвальніка.

***Віталь ДРАНІК***



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**Нялюбая большасьці з нас працэдура “флюраграфіі” цяпер пагражае ня ўсім. Як паведаміў галоўны доктар абласнога супрацьсухотнага дыспансэру Анатоль Пранік, у вобласьці пачаўся экспэрымэнт: цяпер правяраць вырашана толькі тых, хто належыць да так званых “групаў рызыкі”. Найперш такімі лічацца непасрэдна хворыя на сухоты, а таксама – бамжы, перасяленцы зь іншых краінаў, наркаманы, алькаголікі, жанчыны “лёгкіх паводзінаў”. Мяркуецца, што паслабленьне прымусовага прафіляктычнага рэжыму ў адносінах да астатніх сэканоміць дзяржаве грошы, бо выяўленьне хворага чалавека мэтадам усеахопнай флюраграфіі каштавала да 1 млн. рублёў. Можа, цяпер гэтыя сродкі пойдуць на паляпшэньне мэдычнага абслугоўваньня невыпадковых пацыентаў.**

Аблвыканкам вырашыў, што мясакамбінаты вобласьці сёлета стануць “Адкрытымі акцыянэрнымі таварыствамі”. Акрамя іх, будуць акцыянаваныя таксама Бабруйскі піўзавод і Быхаўскі кансэрва-гародніна-сушыльны. А вось “Магілёўаблхарчпрам” дык стане нават “Холдынгам”. Але ня будзем спяшацца плёскаць у далоні. Прыгадаем, што ў вобласьці ўжо дзейнічаюць 3 “холдынгі” і дзясяткі “акцыянэрных таварystваў”. Аднак стан эканомікі вызначаецца ня тым, як называюцца вытворчасьці і прадпрыемствы, а тым, па якіх правілах яны жывуць і працуюць. А правілы ў нас мяняюцца ці ня кожны месяц пры той непахіснай умове, каб ніхто практычна ня стаў сабе гаспадаром...

**Новы год у Магілёве распачаўся з новых тарыфаў на жыльлёва-камунальныя паслугі. Яны ўзраслі амаль на 5%. Паводле падлікаў, уладальнікам 2-пакаёўкі гэта каштуе больш за 15 тыс. руб., 3-х – адпаведна 21 тысячу. У наступным месяцы чакаецца яшчэ адно падвышэньне, зноў на 5%. І тут, як падаецца, павышэньне коштаў выклікана ня зьменамі ў лепшы бок якасьці камунальных паслугаў, а недахопам у адпаведных канторах грошай хоць бы на больш-менш прыстойнае захоўваньне жыльлёвага фонду. Хочыцца паспачуваць за тое і ім, і сабе, зразумела.**

Паводле інфармацыі намесьніка старшыні аблвыканкаму Анатоля Глаза, на Магілёўшчыне 17 шматдзетных сем’яў ня маюць уласнага жыльля. Многа гэта, мала?.. Калі яго дадуць ім? Пра гэта афіцыйная крыніца маўчыць...

**Бясслаўна скончыўся аўкцыён, што ладзіўся камітэтам па “Аблмаёмасьці”. Пад малаток патрапілі прадпрыемствы сельгасперапрацоўчай галіны, аднак ахвотнікаў іх набыць не знайшлося. Замахваліся да ўдзелу расейцы, аднак у апошні момант і яны адмовіліся набываць нашыя загібелыя і збанкрутаваныя прадпрыемствы.**

Запазычанасьць па зарплаце ў вобласьці спакойна перакрочыла мяжу паміж старым і новым годам. Сёньня яна набліжаецца да сумы ў 2 мільярды рублёў. Амаль усе гэтыя грошы дзяржава вінная калгасным сялянам і тым жа перапрацоўшчыкам. Дзе-нідзе не разьлічыліся зь людзьмі нават за кастрычнік мінулага году. Сяляне звыкліся ды церпяць. Ды й падвор’е памерці ня дасьць.

**У вобласьці, паводле афіцыйнай статыстыкі, на 15 адсоткаў зьменшылася вытворчасьць прадукцыі птушкагадоўлі. Прычынаў некалькі: высокі сабекошт яек і птушынага мяса з-за адсталасьці тэхналёгіі і адсутнасьці інвэстыцыяў у галіну. Паменшыўся і спажывецкі попыт з-за дарагоўлі прадукцыі. Тая ж статыстыка паведамляе, што зь меркаваных укладаньняў у галіну ў 110 млн. руб. сюды не прыйшло ніводнага мільёна. Хутчэй за ўсё, плянавалася разьвіцьцё галіны зь ейных патрэбаў, але без гарантаваных крыніцаў паступленьня сродкаў. Гэта цяпер у нас называецца “прагнознымі паказчыкамі”.**

***Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.***

## Новы стары сябра

**У Магілёве гасьцяваў дэпутат Нямецкага бундэстагу, старшыня таварыства “Усход-Захад” з гораду Брухзалю, сп.Ёрг Таус.**

Яго зьвязвае з нашым горадам, дарэчы, шматгадовая гісторыя супрацоўніцтва ў вырашэньні нашых сацыяльных праблемаў. Першы раз Ёрг Таус быў у нас ў 1991-ым годзе. З таго часу пры чынным і актыўным удзеле нямецкага дэпутата былі рэалізаваныя некалькі праектаў у галіне аздараўленьня дзяцей, аказаньня магілёўцам гуманітарнай дапамогі. Варта адзначыць асобна плённае і працяглае супрацоўніцтва нямецкай грамадзкай арганізацыі з мэдыкамі нашай дзіцячай паліклінікі №4.

Разам з тым, Ёрг Таус быў і застаецца ў ліку тых эўрапейскіх палітыкаў, якія нязгодныя з раскладам беларускіх “палітычных рэаліяў”. Ён неаднаразова заклікаў наш урад да неадкладных захадаў па вяртаньні Беларусі ў рэчышча агульнаэўрапейскіх працэсаў.

Гэтым разам дэпутат наведаў магілёўскія грамадзкія арганізацыі – “Кола сяброў” і “Жаночы цэнтар падтрымкі і самаадукацыі”. Нямецкі госьць выказаў зацікаўленьне ў пашырэньні сувязяў сваёй краіны зь Беларусяй, у тым ліку праз сяброўскія і дзелавыя адносіны паміж грамадзкімі арганізацыямі.

***Уласная інфармацыя***

# Наўрад ці дзе ў нас інакш...

***Мы скарысталіся запісам гутаркі старшыні пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюзу Менскага заводу аўтаматычных ліній Міхаіла Водчыца і намесьніка дырэктара Незалежнага інстытуту сацыяльна-палітычных і эканамічных дасьледаваньняў, былога міністра працы Беларусі Аляксандара Саснова. Яны гавораць пра тэндэнцыі, стан і настрой, якія характэрныя для любога рэгіёну краіны, любога прадпрыемства...***

**Сасноў:** Паводле сацыялягічных апытаньняў, што праводзіў наш Інстытут, можна меркаваць, што большасьць людзей недзе да верасьня лічыла, што эканамічная сытуацыя ў краіне паляпшалася. Афіцыйная статыстыка таксама падавала зьвесткі аб тым, што найбольшыя заробкі й пэнсіі былі ў верасьні. А ўвогуле за год кошты паўсядзённых прадуктаў і тавараў падвысіліся ў паўтары разы – у даляравым вылічэньні! Цяпер большасьць людзей кажа, што іхны сацыяльны стан пагоршыўся.

**Водчыц:** У нас на заводзе раней паскарачалі кадраў аж да таго, што больш скарачаць няма каго. Сярэдні ўзрост рабочых – 50 гадоў. А ёсьць людзі, якім і пад 70. Цікава, што людзі з вышэйшай і сярэдняй тэхнічнай адукацыяй у нас атрымліваюць вельмі нізкія заробкі. Але яны нікуды не сыходзяць.

**Сасноў:** У цэлым грамадзтва пакуль што чакае. Яно будзе чакаць недзе з паўгода выкананьня тых абяцаньняў, якія гучалі ад імя ўлады падчас апошніх выбараў. Потым могуць быць і нейкія акцыі пратэсту.

**А вось як камэнтуе запазычанасьці па заработнай плаце эканаміст, экспэрт Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў Міхаіл Залескі:**



Фота IREX

— Мушу зазначыць, што падзяліўшы запазычанасьць на колькасьць афіцыйна занятых у эканоміцы, мы не атрымаем па 10 даляраў на чалавека. Адсюль вынікае, што праблема сканцэнтравалася ў галінах зь нізкім узроўнем заробкаў, а там – на людзях з самай малой аплатай працы. Дзеячы культуры і мастацтва, напрыклад, ўсё яшчэ чакаюць свае 25 мільёнаў рублёў...

Калі ў 1990-ым годзе сярэдні калгасьнік атрымліваў на 3% меней, чым той, хто быў заняты ў прамысловасьці, то сёньня адрыў складае 38%.

Хаця і ў прамысловасьці заробкі нізкія, а затрымкі з выплатай пачашчаюцца.

Такім чынам, мы маем справу ня з вынікамі парушэньняў працоўных дамоваў асобнымі дырэктарамі, а з сыстэмнай зьявай, уласьцівай менавіта сёньняшняму беларускаму тыпу гаспадараньня.

# Насьпела дырэктарская чарга

***Былы намесьнік генэральнага дырэктара Менскага аўтамабільнага заводу Аляксандар Якаўлеў папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы.***

***Афіцыйна ў Беларусі яго абвінавачваюць у фінансовым крымінале. Сам жа ён сьцьвярджае, што беларускія сьледчыя органы перасьледуюць яго па палітычных матывах.***

– Любы разумны чалавек, які мае сваё меркаваньне, сёньняшняму рэжыму непатрэбны, – лічыць сп.Якаўлеў, які ўжо год жыве ў Вроцлаве. Ён узгадвае некалькі фактаў, якія, на ягоную думку, паўплывалі на негатыўнае стаўленьне да яго з боку ўладаў. Напрыклад, ён забараніў сваім супрацоўнікам перадаваць інфармацыю ў КГБ. Ён адмовіўся хлусіць рабочым на “палітінфармацыях” і перастаў іх праводзіць. Падчас па-за леташніх выбараў у “палату” ён ня ўказваў падначаленым, за каго галасаваць. Усё гэта, як адчуў сп.Якаўлеў, адразу ж было заўважана.

– Цяпер для начальніцкага корпусу размова ў працоўным кабінэце на вуха ці праз запіскі лічыцца нормай, – сьведчыць Якаўлеў. – Пра размовы ўголас на “вольныя” тэмы ня можа быць гаворкі.

Былы намесьнік дырэктара МАЗу лічыць, што арышты кіраўнікоў беларускіх прадпрыемстваў маюць на мэце ўказаць рабочым на іхных начальнікаў як на “злодзеяў, якія крадуць іхныя заробкі”.

У магчымую лібэралізацыю пры цяперашнім рэжыме А.Якаўлеў ня верыць. Як эканамісту яму ясна, што гаспадарчай лібэралізацыі наўпрост не існуе пры дзяржаўнай уласнасьці на сродкі вытворчасьці. Што тычыцца палітычнай палёгкі, то яна яшчэ больш праблематычная.

***Аляксей ДЗІКАВІЦКІ***

**На гэтым тыдні сталася вядома аб арышце дырэктара Менскага трактарнага заводу Міхаіла Лявонава.**

Напрыканцы мінулага году і ў пачатку гэтага арыштаваныя ўжо некалькі дырэктараў рознага маштабу ў сталіцы, Гомлі, Магілёве, некаторых райцэнтрах. Гэтыя паведамленьні, а галоўнае – самую сытуацыю і ейныя прычыны ў недзяржаўнай і замежнай прэсе абмяркоўваюць палітолягі, назіральнікі й нядаўнія пасадавыя асобы таго ж рэжыму. “ТМ” ніжэй знаёміць чытачоў з камэнтаром былога міністра зьнешнеэканамічных сувязяў Міхаіла Марыніча:

— Працягваецца палітычная акцыя, далейшае нагнятаньне страху. Адным словам, пра дэмакратычныя працэсы гаварыць не даводзіцца. Бясспрэчна, што калі затрымліваюцца такія дырэктары як Калугін *(“Атлянт” – ТМ)*, а цяпер Лявонаў, прадпрыемствы якіх ёсьць вядомымі маркамі і флягманамі Беларусі, то цяжка паверыць у тое, што пасьпешліва тлумачыць пракуратура: гэта, маўляў, – злоўжываньні. Якія там злоўжываньні, калі гэтыя людзі рабілі ўсё магчымае ў нашых умовах – калі заблытанае заканадаўства, калі законы падмяняюцца дэкрэтамі і ўказамі ледзь ня кожны месяц – каб усё ж трымаць вытворчасьці, а значыць людзей, на плыву, каб прасоўваць прадукцыю на сусьветныя рынкі! А сёньня яны аказваюцца не патрэбнымі ані дзяржаве, ані сваім прадпрыемствам... Гэта жахлівая палітычная стратэгія, а не пакараньні дырэктараў за злоўжываньні, якія яны нібыта пачалі разам дапускаць.

***Паводле радыё “Свабода”***

# Чалавек, які спазьніўся

***Супраць старшыні Клімавіцкага райвыканкаму Ў.Канавалава, між іншым, нядаўна адзначанага Ордэнам “за асабістыя посьпехі”, днямі ўзбуджаная крымінальная справа.***

... Неяк службовую машыну Канавалава затрымалі міліцыянты, якія знайшлі ў ёй 5 паўнюсенькіх, толькі з заводу, скрынак гарэлкі. Кіроўца старшыні прызнаўся, што вязе гэты груз для свайго шэфа. Хутка выявілася, што гэта быў не адзінкавы выпадак вывазу з заводу дармовае гарэлкі на выканкамаўскім аўтамабілі. Больш таго, зазвычай каштоўны груз суправаджаў супрацоўнік мясцовай ДАІ. Цяпер сьледчыя не выключаюць і таго, што такім жа чынам гарэлка вывозілася для продажу ў суседнюю Расею.

Расьсьледаваньне крымінальнай справы “за выкарыстаньне службовай пасады і крадзеж” толькі пачалося. Можна чакаць, што сам Канавалаў, ягоны кіроўца, кіраўніцтва знакамітага гарэлачнага заводу – гэта яшчэ ня ўсе ўдзельнікі скандалу.

*Ян МІКАЛАЕЎ*

**Ад рэдакцыі.** Трэба нагадаць, што пасьля таго, як Канавалаў (здаецца, два гады таму) стаў старшынём райвыканкаму, са сваіх пасадаў вымушаныя былі сысьці начальнік раённай міліцыі й тагачасны дырэктар лікёра-гарэлачнага заводу. Магілёўцы, магчыма, памятаюць, што менавіта гэты самы Канавалаў праз абласныя дзяржаўныя СМІ пагражаў *“искоренить всю мафию”*, якая, па ягоных словах, мае выхад на Менск і нават Маскву. Цяпер выглядае на тое, што зрабіць гэтага не пасьпее....



Аднак нас гэты раённы кіраўнік, які неаднойчы прылюдна кляўся ў любові і аддасьці Лукашэнку, цікавіць тым, што нядаўнім верасьнем асабіста ўжываў грубую фізычную сілу супраць актывісткі штабу апазыцыйнага кандыдата, а таксама супраць мясцовага каардынатара незалежнага назіраньня за выбарамі. Тады ж магілёўскія праваабаронцы заявілі пра свой цьвёрды намер дамагчыся прыцягненьня Канавалава да адказнасьці за гэтыя дзеяньні. Але выглядае, што калі Канавалаў і будзе пакараны, дык зусім, на жаль, не за гэта.

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Колькі яшчэ схавана ў гэтай зямлі

***Нечакана для валанцёраў якраз насупраць урочышча пачалося будаўніцтва падземнага пераходу, які раней плянавался зрабіць бліжэй да гораду.***

Таксама нечакана праца тут перапынілася, бо будаўнікі ў аўторак натрапілі на заржавелыя страляныя гільзы, якія на паверхню вывярнуў эскаватарны коўш. Будаўнікі спыніліся, як тое гаворыцца, па закону, бо ў падобных выпадках павінны паведаміць пра здарэньне ў адпаведныя інстанцыі. Пакуль адтуль нічога не чуваць, а вось навуковец і археоляг Алег Іоў, які апякуецца ад Акадэміі навук тэмай Курапатаў, неадкладна прыбыў да знаходкі. Папярэдні агляд некалькіх сотняў страляных гільзаў выявіў іхнае савецкае паходжаньне часоў 38-га і 49-га гадоў. Сярод гільзаў найбольш ад вінтовачных і наганных патронаў, трапляюцца таксама ад “нерасшыфраванай” пакуль буйнакалібэрнай зброі. Навуковец ня мае таксама дакладных высноваў наконт паходжаньня нечаканай знаходкі.

Абвешчана, што валанцёры, якія трымаюць у Курапатах варту, атрымалі запрашэньне на сустрэчу з прадстаўнікамі будаўнічых арганізацыяў, якія вядуць рэканструкцыю дарогі. Паводле актывіста варты Сяржука Высоцкага, гэта сьведчыць пра тое, што грамадзкі статус абаронцаў Курапатаў бясспрэчна расьце: “Адбыліся кардынальныя зьмены. Будаўнікі сталі вельмі асьцярожныя. Ужо гаворкі ня можа ісьці пра тыя інцыдэнты, што былі напачатку, калі будаўнікі ганялі адсюль жанчын, якія прыходзілі, каб нас падтрымаць. Бачна, што ўлада паціху пасуе”. А іншы вартаўнік, Аляксей Капэлян лічыць, што “сустрэча наладжваецца з-за таго, што мы не даем ім працаваць, і яны не атрымалі 13-ю зарплату...”.

*Ганна СОУСЬ*



# Як скажа... Масква?

***Афіцыйна пацьверджана, што кандыдат на пасаду кіраўніка місіі АБСЭ ў Беларусі толькі адзін – немец Эбэргард Хайкен.***

Пасьля сыходу амбасадара Віка новага кіраўніка КНГ АБСЭ павінен быў прызначыць міністар замежных справаў Румыніі, якая старшынявала ў АБСЭ летась. Але гэтага не адбылося...

Днямі сытуацыю пракамэнтаваў сп.Роза Ла, прадстаўнік Партугаліі, якая зараз старшынюе ў АБСЭ. Паводле ягоных словаў, працэс прызначэньня новага кіраўніка КНГ АБСЭ ў Менску сапраўды зацягнуўся. Ён выказаў заклапочанасьць гэтай затрымкай, аднак запэўніў, што зараз адбываюцца шматлікія кансультацыі з мэтаю прысьпешыць прызначэньне.

Упершыню сп.Роза Ла афіцыйна пацьвердзіў, што іншыя кандыдатуры, акрамя нямецкага амбасадара Э.Хайкена, не разглядаюцца: “Мы маем толькі аднаго гэтага кандыдата”, – падкрэсьліў партугалец. Таксама ён паведаміў, што 23-га студзеня ў Партугалію прыедзе міністар замежных справаў Расеі Іваноў, зь якім будзе абмяркоўвацца беларуская сытуацыя.

Варта нагадаць, што менавіта Расея адыграла вырашальную ролю ў адкрыцьці КНГ АБСЭ ў Менску чатыры гады таму. Цяпер АБСЭ спадзяецца, што Масква (!) дапаможа прызначыць і новага кіраўніка гэтай групы.

*Юры СЬВІРКО*

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНІЧАХ



***Днямі адбылося пашыранае паседжаньне праўленьняў дзьвюх суседніх калгасаў – імя Засонава і “Запаветы Леніна”.***

На ім прысутнічалі, сярод іншых, старшыня райвыканкаму Генадзь Шпакоўскі й начальнік райсельгасхарчу Аляксандар Шчацінка. Цягам паседжаньня было вырашана аб’яднаць вышэйназваныя гаспадаркі ў адну. Падставы да “жаніцьбы” былі наступныя: калгасам “Запаветы Леніна” каля 2-х месяцаў кіруе часовы старшыня, а сталай кандыдатуры не знайшлі. Эканамічны ўзровень абодвух калгасаў прыкладна аднолькавы – “сярэдні”, што на практыцы азначае – вельмі дрэнны. Аднак раённыя начальнікі даводзілі ўдзельнікам паседжаньня, што аб’яднаньне гаспадарак – гэта адна з “эфэктыўных мадэляў рэфармаваньня аграпрамысловага комплексу”. Абвешчана, што такі ж прагрэс у разьвіцьці вёскі чакае яшчэ колькі калгасаў.

***На пачатку кожнага году калгасы і саўгасы заключаюць зь вяскоўцамі гэтак званыя кантракты на закупку цялят, якія гадуюцца ў асабістых гаспадарках.***

Аднак зазвычай адміністрацыі гаспадарак не выконваюць узятыя дамоўныя абавязкі. Напрыклад, за мінулы год запазычанасьць па выплаце грошай за закупленых цялятак склала агулам больш за 10 мільёнаў рублеў.

Праўда, і вяскоўцы часьцяком робяць гэтаксама: паперку падпішуць, а цяля прадаюць туды, дзе выгадней. У тым жа мінулым годзе замест 2502 галоваў маладняку буйной рагатай жывёлы (паводле заключаных кантрактаў) гаспадаркі закупілі толькі 2077.

***Амаль чатыры гады дабрачынная арганізацыя царкоўнай абшчыны і прафсаюзу транспартнікаў швэдзкага гораду Бурос аказвае гуманітарную дапамогу мясцовым вяскоўцам.***

Цягам апошніх трох тыдняў швэды даставілі ў раён амаль тры тоны адзеньня, абутку й бялізны. Усё гэта разьмеркавана паміж работнікамі саўгасу “Бялынычы” і райаграпрамтэхзабесьпячэньня.

*Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ*

## Невыканальная ўмова

***Днямі ў польскай прэсе зьявіўся шэраг матэрыялаў аб тым, што Эўрапарлямэнт патрабуе ад беларускіх уладаў правесьці незалежнае сьледзтва ў справе зьніклых палітыкаў.***

Сярод іншых гаворка ідзе пра былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранку, а таксама Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Прадстаўнік Эўрапейскага парлямэнту Ян Віерсма зьвярнуўся з адкрытым лістом да Лукашэнкі, дзе запатрабаваў правесьці незалежнае сьледзтва. У сваім лісьце спадар Віерсма прыгадаў, што беларускія ўлады ніколі не пагаджаліся скарыстаць замежную дапамогу ў гэтай справе. Ён заявіў таксама, што будзе падымаць пытаньне зьніклых беларускіх палітыкаў у часе ўсіх магчымых паседжаньняў Эўрапарлямэнту, Рады Эўропы і АБСЭ.

Што да пазыцыі Польшчы, то ў прэсе і на тэлевізіі экспэрты часта спасылаюцца на заяву міністра замежных справаў Уладзімежа Цімашэвіча, паводле якой адной з умоваў далучэньня Беларусі да Эўрапейскай супольнасьці ёсьць менавіта высьвятленьне лёсу зьніклых палітыкаў ды адпаведнае пакараньне выканаўцаў гэтых злачынстваў.

*Аляксей ДЗІКАВІЦКІ*

## ШТО НА ТЫДНІ... У КРЫЧАВЕ



***На паседжаньні райвыканкаму ў якасьці афіцыйнага гербу гораду прынятыя гарадзкі сымбаль XVII стагодзьдзя.***

На ягоным чырвоным полі – залаты каталіцкі крыж і срэбраны меч. Герб разам з Магдэбурскім правам падараваў гораду Вялікі Літоўскі князь Ян Казімір Ваза ў 1653г. У тым часе мястэчка пастаянна было ўцягнутае ва ўзброеныя канфлікты з-за сваёй мяжы з Расеяй. У 1775г. расейскія заваёўнікі, як вядома, скасавалі гарадзкія прывілеі разам з гербам.

Тлумачальная даведка аб гісторыі гэтага пытаньня.

*У першай палове 80-х у якасьці герба быў прыняты шчыт, на полі якога былі намаляваныя коміны мясцовага цэмэнтнага заводу. Гэты “твор” дасюль вітае ўсіх, хто прыязджае ў Крычаў па дарозе Івацэвічы-Масква. У другой палове 80-х быў вынайдзены новы сымбаль – на геральдычным шчыце месьціўся абрыс палаца расейскага князя Пацёмкіна, якому наш горад быў падараваны каханкай-імпэратрыцай напрыканцы XVIII стагодзьдзя.*

І вось зараз, як ні дзіўна, улада вярнула гораду ягоны сапраўдны герб. Цікава заазначыць, што літаральна адразу ён зьявіўся ў лягатыпе мясцовай раёнкі “Ленінскі кліч”.

**Ад рэдакцыі.** *Можна толькі вітаць рашэньне райвыканкаму. Чытачы “ТМ”, аднак, даўно ўжо прывычаіліся да крычаўскага старажытнага гербу, які мы ад пачатку друкавалі побач з інфармацыяй з гэтага раёну.*

***Пры падтрымцы грамадзкага аб’яднаньня “Кантакт-цэнтар” у Крычаўскім абласным ліцэі пабачыў сьвет інфармацыйны бюлетэнь.***

Ліцэісты даўно задумалі стварыць уласнае пэрыядычнае выданьне. Але заўжды чагосьці не хапала: то адмысловай кампутарнай праграмы, то неабходнага ўзгадненьня з адміністрацыяй, то адказнага чалавека...

Цяпер, з дапамогаю працаўнікоў трэцяга сэктару, усе гэтыя праблемы засталіся ў мінулым. Першым нумарам “Ліцэйскага весьніка” ужо некалькі дзён зачытваюцца навучэнцы й выкладчыкі.

*Андрэй КУЗЬМІН*



***Днямі ў Магілёве адбыўся ўстаноўчы сход грамадзкай арганізацыі, старшынём рады якой абраны вядомы гісторык Ігар Пушкін.***

***Пасьля добраахвотнага сыходу спадара Пушкіна з пасады дырэктара музэя гісторыі Магілёва на выкладчыцкую працу ў Тэхналягічны інстытут, здавалася, што ён вырашыў разьвітацца з грамадзкай дзейнасьцю, а тым больш – палітыкай. Аднак, як бачна, прыродна актыўныя людзі ня могуць працяглы час трымацца ў ценю.***

Новае грамадзкае аб'яднаньне атрымала, на жаль, ня вельмі зграбную назву, а менавіта – "Духовая культура "Магутны Божа", хаця мэты і задачы новаўтварэньня значна шырэйшыя за арганізацыю толькі фэстываляў хрысьціянскіх сьпеваў і музыкі. Да месца побач з Культурай было б слова Адраджэньне, што, дарэчы, напачатку й прапаноўвалася. Аднак гэтае "небясьпечнае" для рэжыму слова было сарамліва прыбранае, тым больш, што да грамадзкай ініцыятывы спрыяльную ўвагу праявіла гарадзкая ўлада, якая адразу забясьпечыла новае ГА юрыдычнай адрэсай і месцам для працы, – пацясьніўшы офіс свайго ўпраўленьня культуры.

## Дай Бог, дай Бог...

Дарэчы, начальніца гэтага ўпраўленьня спн.Шаркова разам з сваёй намесьніцай, а таксама начальнік упраўленьня інфармацыі сп.Валабуеў непасрэдна ўвайшлі ў лік заснавальнікаў новай грамадзкай ініцыятывы. Да іх далучыліся прадстаўнікі шэрагу вядомых грамадзкіх арганізацыяў ("Кола сяброў", "Магілёўская даўніна", каталіцкае таварыства пры касьцёле сьв. Станіслава і праваслаўнае – пры царкве Трох Сьвяціцеляў). З духовых асобаў гэтых парахвіяў пакуль дакладна ўвайшоў у склад аб'яднаньня ксёндз Роман, які, дарэчы, і выступіў ініцыятарам усёй гэтай справы. У складзе заснавальнікаў таксама мастакі, выкладчыкі культуры, прадстаўнікі іншых колаў інтэлігенцыі.

Такім чынам, ніводзін з бакоў новай арганізацыі – ні ўладны, ні грамадзкі – ня маюць відавочнай перавагі й таму будуць вымушаныя заўсёды шукаць паразуменьня і дамаўляцца. Але як тое будзе выглядаць на справе, засьведчыць час.

Асноўная задача новага грамадзкага ўтварэньня на сёлета – пасьпяховае правядзеньне ў Магілёве 10-га міжнароднага фэстывалю духовай музыкі і сьпеваў "Магутны Божа". Гэтае незвычайнае для цяперашняй Беларусі сьвята культуры апошнія некалькі гадоў згубіла (з розных прычынаў) папулярнасьць і аўтарытэт. Ад узнаўленьня фэстывалю, які быў значнай культурнай падзеяй цягам сваіх першых год жыцьця, і вырашыла пачаць працу новае грамадзкае аб'яднаньне. Надалей у ягоных плянах – спрыяньне адраджэньню (усё ж!) нацыянальнай культуры і агульначалавечай маралі з дапамогаю фэстываляў, выставаў, імпрэзаў, конкурсаў, заахвочваньня і падтрымкі талентаў, асабліва ў моладзевым асяродку.

Але спачатку ўсе будуць чакаць юбілейнага "Магутнага Божа", які мае адбыцца прыгожымі ліпеньскімі днямі...

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях культуры***
***Фота А.Ліціна***



## Там, дзе сканчаецца асфальт...

***Нягледзячы на тое, што 10 гадоў таму былая савецкая рэспубліка Беларусь стала незалежнай краінай, 2-мільённая сталіца Менск зьмянілася меней, чым іншыя ўсходнеэўрапейскія сталіцы, – піша швайцарская газэта Neue Zuercher Zeitung.***

Аўтар артыкула, вольны швайцарскі журналіст Патрык Ніг, вырашыў некаторы час пажыць у Менску. Гэтае жаданьне, – піша ён, – выклікала непаразуменьне ў большасьці беларусаў. Адразу ж пры ўезьдзе ў Беларусь памежнік дружалюбна пажадаў яму хуткага вяртаньня ў Швайцарыю...

"Беларусы пераканаными, што ў іхняй краіне жыць ня варта: вельмі нізкія заробкі, халодныя зімы, дрэнныя дарогі й занадта складаная бюракратыя, – заўважае П.Ніг".

Вуліцы беларускай сталіцы захоўваюць подых старога часу: каменны Ленін – у самым цэнтры, насупраць Дому ўраду, як, дарэчы, непадалёк – Дзяржынскі. І хоць горад чысты, па вуліцах езьдзяць "іншамаркі", але абсалютна несувымерная колькасьць міліцыянтаў шакіруе любога замежніка.

А вось пітную ваду ў большасьці раёнаў гораду, паводле назіраньняў швайцарца, немагчыма піць: трэба яе абавязкова прафільтраваць. Увогуле, па-за цэнтрам Менску, там, дзе месьцяцца блёчныя новабудоўлі, можна ўбачыць зусім іншы горад. Людзі ў ім жывуць ад продажы сабраных на вуліцах бутэлек, начуюць у пад'ездах... Блёчныя кварталы ёсьць сапраўднай ілюстрацыяй таго, што жыцьцёвы ўзровень беларусаў за апошнія 10 гадоў зьнізіўся болей чым утрая.

Як тут не параўнаць гэткае становішча з суседнімі народамі і краінамі, ды не спаслацца на адну з адну з галоўных прычынаў адсталага і беднага існаваньня Беларусі – брак дэмакратыі.

***Алена ПАНКРАТАВА***





## Хто падабаецца амэрыканцам

На сёньня бальшыня амэрыканцаў (39%) ухваляе дзеяньні і асобу свайго прэзыдэнта Джорджа Буша. Другое месца, згодна адмысловага апытаньня, займае дзяржаўны сакратар ЗША Колін Паўэл, а трэцяе – былы мэр Нью-Ёрка Рудольф Джуліані. Акрамя названых асобаў, у сьпісе сярод самых папулярных у ЗША людзей таксама значацца: Ян Павал Другі, казаньнік Біл Грэм, экс-прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан, прэм'ер-міністар Вялікай Брытаніі Тоні Блэр, легенда баскетболу Майкл Джордан, экс-прэзыдэнты – амэрыканец Джыммі Картэр і паўднёваафрыканец Нэльсан Мандэла.

***Паводле Gallup***

## Думкі аб Радзіме даўніны ня маюць...

***Адзін з самых уплывовых у сьвеце сродкаў масавай інфармацыі – ангельскі часопіс The Economist у артыкуле "Думкі аб Радзіме з-за мяжы" даў ацэнку сучаснаму стану ўрадаў у выгнаньні, якіх цяпер 25 у сьвеце.***

Урады гэтыя вельмі розныя, як і краіны, якія яны спрабуюць прадстаўляць. Пачынаючы ад найбольш сур'ёзнага зь іх, тыбэцкага ўраду ў выгнаньні пад кіраўніцтвам Далай Ламы, што знаходзіцца ў Індыі пасьля акупацыі Тыбэту Кітаем, і заканчваючы вельмі незвычайным Радэзійскім урадам, які дзейнічае ў інтэрнэце і рассылае электронныя паведамленьні з просьбай перасылкі ахвяраваньняў на свае швайцарскія рахункі.

Сёньняшні ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі на чале з Івонкай Сурвіллай было б памылкай увогуле ня браць пад увагу, піша The Economist, бо сытуацыя можа неўзабаве рэзка зьмяніцца. Як гэта сталася, напрыклад, ва Усходнім Тыморы, дзе сябры ўраду ў выгнаньні сталі галоўнымі палітычнымі дзеячамі на радзіме. Тое ж практычна цяпер адбываецца ў Афўганістане.

Вядома, што ў 90-х гадах мінулага стагодзьдзя, пасьля самавызваленьня краінаў, некалі ўключаных у склад Савецкай імпэрыі, іхныя ўрады ў выгнаньні фармальна перадалі свае паўнамоцтвы дэмакратычна абраным новым урадам. Урад БНР, аднак, гэтага не зрабіў, бо справядліва лічыць, што Беларусь усё яшчэ ня стала вольным Краем. Пакуль ня зьнікла пагроза незалежнасьці Беларусі, – піша часопіс, – урад Івонкі Сурвіллы мяркуе працягваць дзейнічаць, падтрымваючы сувязі з часткай беларускай апазыцыі ўнутры краіны. Адметна, што "прыём у грамадзянства БНР" цяперашніх грамадзянаў Беларусі, які быў некалькі год таму распачаты Беларускім Народным Фронтам і, дарэчы, дагэтуль не абвешчаны скончаным, названы ў артыкуле "добрай ідэяй".

***Валер КАЛІНОЎСКІ***

## Гэй, рыцары!

29-30 чэрвеня 2002-га году адбудзецца Другі Сярэднявечны фэст "Наваградзкі замак". У праграме – турнір караля Міндоўга, тэатралізаваная пастаноўка "Каранацыя Міндоўга", інсцэніроўка бітвы за Наваградак у XIVст., сярэднявечны кірмаш, канцэрты, бугурты, паказальныя выступы ды многае іншае.

Папярэднюю згоду на свой удзел ужо далі сярэднявечныя і рыцарскія клюбы з 9-ці краінаў.

Кантакты аргкамітэта фэсту ў Менску: тэл./факс (017) 220-68-74, e-mail: siver@folk2.lingvo.minsk.by.

***Бясплатная абвестка***

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 2. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 10.01.2002 г. а 17.10